# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 44 (430) — Нядзеля, 16 лістапада 1958 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# ЗНОЎ БЭРЛІН

Мікіта Хрушчоў выцягнуў з запазухі яшчэ адзін козыр — справу Бэрліну. Ён дамагаецца зьліквідаваньня дасюлешняга акупацыйнага статусу Бэрліну й перададаньня гораду нямецкім уладам. На першы пагляд Хрушчоў быццам-бы мае слушнасьць: акупацыя Нямеччыны ўжо даўно скончылася, стварыліся «сувэрэнныя» нямецкія дзяржавы, дык чаму Бэрлін да бясконца мае падлягаць акупацыйнаму статусу? Іншая справа, што ёсьць толькі адна сувэрэнная й свабодная Нямеччына — Нямецкая Фэдэратыўная Рэспубліка, у якой, хаця, згодна з умовай краінаў Атлянтычнага Пакту і з згодай нямецкага ўраду, знаходзіцца замежнае войска, яно ніякім чынам ня ўплывае на палажэньне ў краіне, і вывад гэтага войска абсолютна ня зьменіць гэтага палажэньня. Ува Ўсходняй-жа Нямеччыне маскоўскія марыянэткі Ульбрыхт-Гротеволь і супалка трымаюцца на штыках савецкай арміі; калі-б гэтая армія выступіла зь Нямеччыны, праўдападобна мусіла-б забраць з сабой і адміністрацыю сваіх марыянэтак, бо без савецкіх танкаў ім-бы магло быць вельмі моташна. Але гэтыя праўды й факты ня турбуюць Хрушчова і ён не заікаючыся цьвердзіць, што цяперашняе палажэньне далёка не нармальнае і яго трэба зьмяніць. А зьмяніць вельмі проста: перадаць сталіцу Нямеччыны Немцам. Усё гэта магло-б пераконваць, каб не адна драбніца, а менавіта, што цяперашні падзел Нямеччыны — палажэньне таксама не нармальнае й яго таксама трэба было-б зьмяніць. Зрабіць гэта можна шляхам правядзеньня ўсенароднага, свабоднага плебісцыту. Але на гэткі плебісцыт ува ўсходняй Нямеччыне не згаджаюцца і, праўдападобна, яшчэ доўга ня згодзяцца Хрушчоў ды ягоныя марыянэткі ў Панкоў. І яны ведаюць чаму. Як ведаем, за апошнія гады гэткіх не нармальных зьявішчаў натварылася больш: ёсьць два Кітаі, дзьве Карэі, два Ветнамы, ну й дзьве Нямеччыны. Маскоўская прапаганда быццам-бы вельмі-ж турбуецца гэтымі падзеламі й дамагаецца задзіночаньня гэтых краінаў. У запраўднасьці-ж — гэта вада на млын маскоўскіх дыктатараў і яны мараць, каб гэтыя ненармальнасьці заставаліся як найдаўжэй. Толькі ў вадным выпадку яны-б віталі задзіночаньне — калі-б гэтыя краіны задзіночыліся пад уладай камуністых.

Сяньня Хрушчоў можа быць шчодры й вялікадушны, «перадаючы» Бэрлін Немцам, бо ён нічога ня траціць. Затое заходнія дзяржавы апынуліся перад цяжкай праблемай, а сьвет — перад новай пагрозай канфлікту.

Дарэчы будзе прыгадаць генэзу й гісторыю гэтага бэрлінскага статусу. Першы тэкст адносна юрыдычнага статусу Бэрліну быў прыняты гэтак званай Эўрапэйскай кансультатыўнай камісіяй згодна з прапановамі Маскоўскай нарады міністраў замежных справаў у 1943 годзе. Паводле гэтае пастановы, Нямеччына мела быць падзеленая на тры акупацыйныя зоны, а ў раёне Бэрліну мела быць створаная зона сумеснай акупацыі. У лютым 1945 году, на канфэрэнцыі ў Ялце, было ўзгоднена прыняць ў лік акупацыйных дзяржаваў і Францыю. Пятага чэрвеня 1945 году галоўнакамандуючыя чатырох саюзных дзяржаваў ген. Айзэнгаўэр, маршал Монтгомэры, маршал Жукаў і ген. дэ Тасіньі падпісалі пагадненьне аб перададаньні савецкай арміі Турынгіі і Саксоніі, якія заняло ў той час амэрыканскае войска. З свайго боку, савецкае камандаваньне адступіла заходнім саюзьнікам частку савецкай зоны. Пратакол Патсдамскай нарады, якая адбывалася ад 17 ліпеня да 2 жніўня 1945 году ня мае ніякіх адмысловых пунктаў адносна Бэрліну. Ён толькі пацьвярджае раней прынятыя пастановы аб акупацыі. Адносна згоднае сужыцьцё трывала тры гады. 14 ліпеня 1948 году савецкі ўрад заявіў, што заходнія дзяржавы ня маюць ніякіх правоў у Бэрліне, і пачалася адзінаццацімесячная блякада. Наважанае становішча заходніх дзяржаваў пераламала гэтую блякаду і ў травені 1949 году савецкі ўрад прызнаў «дэ факто» прысутнасьць вайсковых аддзелаў заходніх краінаў у Бэрліне і спыніў блякаду.

Сяньня Хрушчоў — праўда ў форме намёкаў — прыгадвае заходнім дзяржавам, што блякада можа паўтарыцца, таму было-б лепш, каб яны спакойна спакаваліся ды выехалі з Бэрліну. Як звычайна, Хрушчоў, быццам-бы раіцца з народам, таму ён 10 кастрычніка гаварыў: «Ці не пара было-б зрабіць адпаведныя высновы й перагледзець статус Бэрліну... бо ён зьяўляецца ненармальным, несправядлівым і шкодным ...»

Хрушчоў быццам-бы раіцца, але няма ніякага сумлеву, што ўжо нешта пастанавіў; мае гатовы плян. А таму, што ён ня мае ні намеру, ні патрэбы рабіць прыемнасьці заходнім дзяржавам, дых трэба спадзявацца чарговае авантуры. Прыкрасьць будзе тым большая, што цяпер Масква будзе рабіць міны, што яна ў гэтым нічога ніякага, бо акцыю будзе весьці гэтак званы «сувэрэнны нямецкі ўрад» у Панкоў, якога да гэтага часу заходнія дзяржавы не прызнавалі і зь ім не гаварылі. А гаварыць з марыянэткамі Гротэволям-Ульбрыхтам — гэта значыць іх прызнаваць, а прызнаваць — гэта значыць скамплікаваць дачыненьні зь Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікай. Вось дзе адзін з «падвохаў» хітрага Мікіты ...

Рэч зразумелая, Заходні Бэрлін — ааза свабоды ў таталітарнай пустыні й у горле камунізму. Таму яны могуць пайсьці навет на цяжкую апэрацыю, каб гэтай косткі пазбавіцца. Сотні людзей з усходняй зоны штодзень уцякаюць у Заходні Бэрлін, а гэта ня прыносіць камуністым ні прыемнасьці, ні гонару.

Вельмі праўдападобна, што Хрушчоў цаляе адразу ў некалькіх зайцаў, каб забіць хоць аднаго. Пэўна-ж найбольшым дасягненьнем было-б пазбыцца косткі ў горле, але вымусіць прызнаньне «ураду» Гротэволя — таксама варта стрэлу. Далей Хрушчоў можа разьлічваць, што бэрлінскім шантажом перашкодзіць узбраеньню Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі атамнай зброяй. І пры гэтым усім ён замуціць ваду у Атлянтычным акіяне, што Хрушчоў вельмі любіць.

Ня думаем, што Хрушчоў адважыцца на вайну, якая цяпер яму і некарысная й непатрэбная. Таму можна спадзявацца, што калі Захад адважна, наважана — пасьлядоўна супрацівіцца маскоўскім шантажом — Хрушчоў у пару адступіць.

Капітулянцкія настроі, якія назіраліся па абодвух бакох Атлянтычнага акіяну ў сувязі з крызісам у Тайваньскай пратоцы, маглі заахвоціць Хрушчова да далейшых авантураў. «Ня хочам уміраць за Квэмой!» — крычалі апартуністыя ў Амэрыцы, а тымбольш у Англіі. Можа яны таксама будуць крычэць «ня хочам уміраць за Бэрлін». Аднак грамадзкая думка й кіраўнічыя колы Захаду хіба-ж сьведамыя, што тут ня толькі Квэмой і Бэрлін, але гэта — Лёндан, Парыж, Нью Ёрк, Манчэстэр і Чыкаго, што кажнае ўступства Маскве — гэта цьвік у сваю собскую дамавіну.

**пс**

# Аб „тэзісах да 40-годзьдзя ўтварэньня КПБ"

Падрыхтоўка да сьвяткаваньня саракагодзьдзя БССР дасягае свайго зэніту. Побач з надыходзячым пазачарговым XX зьездам КПСС, саракагодзьдзе БССР на працягу апошніх месяцаў зьяўляецца галоўнай або ўскоснай тэмай бальшыні артыкулаў у савецкай беларускай прэсе. У гонар гэтага «юбілею» цяпер у БССР павінны працаваць і калгасьнікі, і работнікі, і інтэлігенцыя. «Увесь беларускі народ павінен годна сустрэць сваё вялікае нацыянальнае сьвята..» — заклікае партыйная прапаганда. У гонар «беларускага нацыянальнага сьвята» кампартыя Беларусі зрабіла таксама «высілак» і 31-га кастрычніка ўва ўсёй рэспубліканскай прэсе апублікавала даўжэзныя тэзісы да «саракагодзьдзя ўтварэньня камуністычнае партыі Беларусі», апрацаваныя Аддзелам прапаганды й агітацыі ЦК КП Беларусі й Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі — філіяй Інстытуту марксызму-ленінізму пры ЦК КПСС.

Гэтыя «клопаты» партыі аб «нацыянальным сьвяце» беларускага народу маюць, бязумоўна, немалую палітычную вымову. Прапануючы усяму сьвету сваю «ленінскую» разьвязку нацыянальнага пытаньня, бальшавікі шукаюць нагодаў, каб і навонкі «прадэманстраваць» гэтак званую «перавагу ленінскай нацыянальнай палітыкі» і адначасна заспакоіць нацыянальныя імкненьні нерасейскіх народаў ўнутры СССР. Гэтай мэце маюць служыць і ўспомненыя тэзісы да саракагодзьдзя КПБ. Толькі, на нашую думку, мэты гэтай яны не дасягаюць і дасягнуць ніяк ня могуць. Тэзісы, ня гледзячы на старонную апрацоўку, не змаглі схаваць таго факту, што й кампартыя Беларусі й цэлая БССР бяруць свой пачатак не зь Беларусі й не зьяўляюцца вынікам волі беларускага народу, а становяць сабою чужыя арганізмы, сілай насаджаныя на беларускую глебу. Такое ўражаньне атрымае навет той, хто зь гісторыяй камунізму на Беларусі пазнаёміцца толькі праз «тэзісы».

Немагчына тут зрабіць дакладнейшы агляд гэтага камуністычнага «твору». Абмяжуемся кароткай агульнай характарыстыкай і некаторымі цікавейшымі мамэнтамі.

Тэзісы пачынаюцца паданьнем даты й абставінаў стварэньня БССР і КПБ. Новае ў гэтым магчыма толькі тое, што гэтым разам, VI-ая абласная канфэрэнцыя Расейскай камуністычнай партыі бальшавікоў спачатку абвесьціла пастанову аб стварэньні БССР (фактычна-ж ССРБ), а толькі пасьля назвала сябе **першым зьездам КП(б)Б і абвесьціла** стварэньне Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) Беларусі. Гэта значыць, бяручы фармальна, пастанову аб стварэньні БССР прыймала не кампартыя **Беларусі**, але **расейская** камуністычная партыя. Хоць ад пазьнейшага перайменаваньня з «расейскай абласной» у «беларускую» расейская сутнасьць кампартыі на Беларусі нічуць не зьмянілася, прыгаданы вышэй факт вельмі паказальны. Да гэтага мы яшчэ вернемся.

Далей бальшавіцкія ідэялёгі ў сваіх «тэзісах» намагаюцца стварыць грандыёзны абраз разьвіцьця камуністычнага руху на Беларусі перад Кастрычніцкай Рэвалюцыяй і пасьля яе. Гэтым разам яны стараюцца прыменшыць тое, што яны звычайна старанна падкрэсьліваюць пры іншых нагодах, а менавіта, што ў выніку каляніяльнай палітыкі Расеі на Беларусі ня было якіх-небудзь значных індустрыяльных цэнтраў, ня было пралетарыяту, а значыцца ня было й базы для разьвіцьця рэвалюцыйнага руху ў марксысцка-ленінскім значаньні гэтых словаў.

Адзіным рэвалюцыйным рухам, які на Беларусі меў падатны грунт і хутка ахопліваў шырокія пласты насельніцтва, быў беларускі глыбока дэмакратычны нацыянальна-вызвольны рух. І вось на змаганьне супраць беларускай нацыянальнай рэвалюцыі й была скіраваная на Беларусь асноўная сіла чужых біялягічна й духова бальшавіцкіх арганізацыяў. У «тэзісах» гэта ня ўтойваецца. Гэтак званыя «буржуазныя нацыяналісты» успамінаюцца там дзе трэба й дзе ня трэба, заўсёды, зразумела, у самых чорных хварбах. Бальшавіцкі дакумант не забыўся й гэтым разам пахваліцца «разгромам», як там пішацца, «гэтак званага Нацыянальнага Ўсебеларускага Кангрэсу», аднак успомніць аб абвешчанай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі бальшавіцкія пісакі палічылі, відаць, за вельмі небясьпечным.

Вяртаючыся яшчэ раз да мамэнту першага абвешчаньня БССР (гаворым «мамэнт», бо стварэньне «беларускай сацыялістычнай дзяржавы» трывала 2-3 дні, бо яно адбылося на загад з Масквы, а ня ў выніку кансультацыі волі беларускага народу) «тэзісы» адкрыта заяўляюць: «Усе мерапрыемствы па стварэньню Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі праводзіліся **па ініцыятыве й пад кіраўніцтвам ЦК РКП(б)** (падкрэсьляньне наша — М. К.). Далей: «Так у пяршыню за сваю шматвяковую гісторыю беларускі народ набыў сваю **нацыянальную незалежнасьць і дзяржаўнасьць**, стаў паўнапраўным гаспадаром свайго жыцьця» (падкрэсьляньне наша — М. К.). А яшчэ далей: «Гістарычнае значаньне 1-га Зьезду КП(б)Б заключалася ў тым, што ён аб'яднаў бальшавіцкія арганізацыі ва ўсебеларускім маштабе й утварыў камуністычную

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# „Прышчэпаўшчына"

Дзейнасьць наркомзема БССР Д. Прышчэпава пачалася ў 1924 годзе, пасьля таго, як да БССР была далучаная Віцебшчына, Магілёўшчына й нязначная частка Смаленшчыны. Гэты час супадае з тым пэрыядам, калі была абвешчана новая эканамічная палітыка ў СССР.

Прышчэпаў меў бяссумлеўныя арганізацыйныя здольнасьці, добра знаў сельскую гаспадарку й жыцьцё беларускага народу. Разбураная войнамі й акупацыямі сельская гаспадарка патрабавала рэформаў, ліквідацыі тых вялікіх крыўдаў, спрычыненых беларускім сялянам пры надзеле іх зямлёй у 1861 годзе. Прышчэпаў паставіў сабе за мэту грунтоўна перабудаваць сельску гаспадарку Беларусі, надзяліць зямлёю безьзямельнае сялянства, зьліквідаваць малазямельле, зьнішчыць вузкапалосіцу, далёкапольле.

Дзеля інтэнсыфікацыі заняпалай сельскай гаспадаркі й стварэньня ўплываў ініцыятыўнай дзейнасьці сельскага двара, Прышчэпаў уважаў неабходным рассяліць буйныя вёскі на пасёлкі. На ягоную думку ўва ўсіх мерапрыемствах дзяржава павінна дапамагаць сялянству, асабліва спрыяць разьвіцьцю ўсіх відаў каапэрацыі.

Пэўна-ж, зь ведама й дазволу ЦК КП Беларусі Прышчэпаў наведаў Данію й Нямеччыну дзеля азнаямленьня зь сельскай гаспадаркай у гэтых перадавых праінах. Пасьля свайго пабыту на Захадзе ён яшчэ больш пераканаўся ў неабходнасьці ажыцьцяўленьня задуманых плянаў. Ягонымі аднадумнікамі, дараднікамі й супрацоўнікамі былі Гаўрыла Гарэцкі, акадэмік Смоліч, географ і знаўца сялянскага быту Некрашэвіч зь Дзяржпляну, а таксама шмат іншых.

За асноўную форму землякарыстаньня на Беларусі быў прызнаны невялікі пасёлак — 5—7 двароў, зямля якога размяшчалася вакол сядзібаў пасялкоўцаў. Уся зямельная плошча пасёлку падзялялася ня менш чым на пяць палеткаў. Сядзібы пасялкоўцаў вызначаліся ў вадным месцы — бліжэй да дарогі выганаў, рэчкі або возера. Кажнаму пасялкоўцу вызначалася каля гэктара пад сядзібу, з мэтай даць яму магчымасьць разьвесьці пры сядзібе сад, гарод, пасеку. Такім чынам, пасялкоўцу давалася магчымасьць выкарыстаць зямлю пры сядзібе паводля свайго густу, разьвіваць на ёй дадатковыя галіны сельскай гаспадаркі.

У першую чаргу неабходна было правесьці земляўпарадкаваньне запаснога фонду — земляў, якія былі раздадзеныя ў часовае карыстаньне. А ўжо арганізацыі іх на пасёлкі, прадбачвалася землеўпарадкаваць буйныя вёскі й сёлы. Новая пасялковая форма землекарыстаньня была прыхільна прынятая беларускім сялянствам. Сяляне дапамагалі каморнікам, выконваючы прасьцейшую працу пры інструмантальных здымках зямельных плошчаў. Сялянства навет дабравольна прыймала на сябе частку выдаткаў на ўтрыманьне каморнікаў. Пры дапамозе інструктараў з наркамзему, у вёсках пасьпяхова арганізаваліся розных відаў сельска-гаспадарчыя каапэратывы. У раёнах аграномы закладвалі дасьледчыя дзялянкі. Спэцыялістыя — аграномы, інструктары садоўніцтва, пчалярства былі жаданымі наведвальнікамі ў вёсках.

Навет частковае землеўпарадкаваньне й пераход на шматпольле, дзе для гэтага была магчымасьць — канкрэтныя парады спэцыялістых сельскай гаспадаркі, далі свае вынікі. Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі пад 1927 год перавысіла 1913 год на 12%, а пасяўная плошча павялічылася на 19%.

Ня меншымі былі дасягненьні і ў жывёлагадоўлі. У параўнаньні з 1915 годам буйнай рагатай жывёлы павялічылася на 36,4%, у тым ліку кароў — на 33%, коней — на 15%. Шпарка падняліся й другарадныя галіны сельскай гаспадаркі: садоўніцтва, гародніцтва, пчалярства. Пад садамі было занята 19.100 гэктараў. Агульны збор садавіны ў 1925 годзе дасягнуў 95.965 тонаў, зь якіх 25.908 тонаў высокаякасных яблык антонаўкі й ігрушаў. Слуцкая бэра вывозілася за межы. Беларусі.

Хуткае й пасьпяховае аднаўленьне сельскай гаспадаркі Беларусі тлумачыцца перш за ўсё працавітасьцю нашага сялянства, яго прагнасьцяй і цікавасьцяй да ўсяго новага, прагрэсыўнага. Аднак асноўным стымулам пасьпяховай працы таго часу ў сельскай гаспадарцы была сьведамасьць, што затрачаная праца на зямлі свае гаспадаркі не прападае дарам, а зьяўляецца пэўным сродкам дабрабыту.

Дзеля распаўсюджаньня посьпехаў новае сыстэмы дасягнутых паасобнымі гаспадаркамі, штогод у раённых цэнтрах адбываліся выстаўкі. Яны называліся «Днямі ўраджаю» і ладзіліся пасьля поўнага заканчэньня восенскіх працаў на полі, пад Пакровы. Выстаўкі былі надзвычай цікавымі, із шматлікімі й разнастайнымі экспанатамі. На выстаўцы можна было сустрэць пародзісту жывёлу, якою вельмі была багатая Случчына. На выстаўку сялянкі прывозілі вялізарныя гарбузы, гуркі й іншыя экспанаты, клапатліва выгадаваныя ў сваіх гародах. Паказвалі таксама й садавіну, пахучы ліповы мёд. Ды чаго там ня было?

За лепшыя экспанаты выдаваліся невялікія грашовыя прэміі, або кніжкі на тэмы жывёлагадоўлі, садоўніцтва, гародніцтва, пчалярства й г. д. Аднак найбольшай узнагародай уважаўся дыплём, або пахвальны ліст. Гэтыя ўзнагароды захоўваліся дома ў рамках на пачэсным месцы.

Арганізатарам і душою ўздыму сельскай гаспадаркі ў БССР быў Д. Прышчэ-

(Працяг на 4-ай бачыне)

# Сьв. Пам. Адварды Будзька

**(з дакладу др-а Жука, 19. 10. у З. Б. К. у Тароньце)**

14 жніўня г. г. у Чыкага памёр ведамы беларускі дзеяч Адварды Будзька. Гэтая сьмерць прынясла беларускай справе вялікую страту ў агульна-нацыянальным засягу, бо шматгадовая дзейнасьць нябошчыка была зьвязана з нашым нацыянальным і вызвольным рухам.

Адварды належыў да піянэраў беларускага руху. Радзіўся ў 1882 годзе ў мястэкчу Будславе Вялейскага павету. Быў равесьнікам Янкі Купалы й Якуба Коласа, зь якімі супрацоўнічаў у «Нашай Ніве», але быў старэйшым нашаніўцам і належыў да старэйшых беларускіх дзеячоў. Ён быў актыўным Беларусам перад 1905 годам, ужо ў 1901 годзе зарганізаваў беларускую калёнію ў Рызе.

Жыцьцёвы шлях нябошчыка быў нялёгкі, хоць гэтага па ім і ня было відаць: заўсёды жывы й рухлівы, энэргічны, з новымі ідэямі й сьмелымі праектамі й плянамі — ён ніколі ня скардзіўся на свой лёс, а заўсёды шукаў чагось новага, заўсёды йшоў наперад. З пачатковай асьветай пакінуў родны Будслаў, пайшоў у шырокі сьвет у раньняй маладосьці. І ня згубіўся. Ня толькі здабыў асьвету самаадукацыяй і знайшоў сабе мейсца ў жыцьці, але й выцягнуў у людзі й спрычыніўся да адукацыі шматлікіх Беларусаў, каб працавалі, як ён сам, для свайго народу. Ягоная-ж дзейнасьць у беларускім жыцьці была такая разнастайная, што здаецца няма дзялянкі, да якой ён ня прылажыў сваё рукі. Ён — грамадзкі дзеяч і арганізатар, пашыральнік беларускай сьведамасьці, кніжкі й газэты, публіцыст, рэдактар-выдавец беларускай газэты «Дзяньніца» ў Петраградзе ў 1916 годзе, а ў 1920 — «Беларускай Думкі» ў Вільні. Ён займаўся рознымі сялянскімі справамі й гаспадарчымі, арганізоўваў каапэратывы й выбіўся на аднаго з найлепшых каапэратараў на Беларусі. Пазьней каапэрацыі ўдзяляўся найбольш, працаваў у гэтай дзялянцы да вайны 1939 году. У каапэратывы ён нёс ня толькі фаховую параду, але й беларуску кніжку й газэту — нацыянальную сьведамасьць. Сам аўтар гэтага дакладу ўжо ў 1912 годзе навучыўся чытаць пабеларуску на «Беларускім календары» і нумарох «Нашай Нівы», якія трапілі ў ягоныя рукі дзякуючы Адварду Будзьку.

Калі ў часе першай сьветавой вайны масы Беларусаў эвакуўюцца ў Расею й рассыпаюцца па яе абшары, Адварды Будзька адным зь першых ідзе ім на спатканьне з маральнай і матар'яльнай дапамогай, закладаючы «Беларускі Камітэт Пацярпеўшым ад Вайны». Дзякуючы гэтаму Камітэту Беларусы ў Расеі трымаюць сувязь із сваім нацыянальным рухам і бяруць удзел у важных падзеях у часе Расейскай рэвалюцыі й пазьней.

Дзейнасьць Адварда Будзькі не абмяжоўваецца да якойсь аднэй мясцовасьці, што праўда, найбольш праяўляецца ў Вільне, Рызе, Патраградзе й Будславе, дзе ён найбольш прабываў, але прамянюе й у іншых пунктах на Беларусі й за ейнымі межамі — ці то ў Менску й меншых беларускіх асяродзьдзях, ці то ў Бэрліне, Коўне, Дзьвінску й на эміграцыі. Таму імя Адварда Будзькі было ўсюды ведамым і папулярным.

Ён адчуваў сваёй душою ўсе патрэбы беларускага руху. Зьяўляўся там, дзе гэтыя патрэбы выступалі найвастрэй. Браўся за тое, што ў даную хвіліну, у даных абставінах было найбольш неабходным, найбольш пякучым. Вычуваў ён гэта з надзвычайным зразуменьнем і сьмела й рашуча прыступаў да дзеяньня. І нішто, здавалася, не магло стрымаць ягонай дзейнасьці. Калі ў 1921 годзе Палякі выкінулі яго ў ліку 33 Беларусаў і Летувісаў зь Вільні ў Летуву, ён праяўляе сваю беларускую дзейнасьць спачатку ў Коўне, а пазьней у Дзьвінску.

* * *

Нябошчык пакінуў таксама вялікі сьлед у змаганьні за беларускую школу. Браў удзел у арганізацыі беларускіх пачатковых школ, быў кіраўніком беларускіх настаўніцкіх курсаў у Дзьвінску, але найбольш праявіў сябе ў гэтай дзялянцы пры арганізацыі Беларускай Гімназіі ў Будславе. Было гэта ў 1917—1919 гадах.

Беларуская нацыянальная сьведамасьць у Будславе й ваколіцах дзякуючы Адварду Будзьку даўно ўжо запусьціла глыбокія карані. Нядаўная рэвалюцыя стварыла спрыяльныя абставіны да гэтага, аднак патрэбна была ініцыятыва, актыўнасьць і ахвярнасьць, каб арганізаваць беларускае школьніцтва. Але Адварды Будзька не задавальняецца пачаткавай школай. Ён адразу сягае па сярэднюю. Калі ўзяць пад увагу, што Будстлаў — гэта невялікае мястэчка (каля 1000 жахароў), паложанае далёка ад большых местаў і што не магло марыць дагэтуль аб чатырохклясовай школе гарадзкога тыпу — дык плян заснаваньня тут беларускай гімназіі выглядаў занадта сьмелым. У Будславе ня было ані адпаведнага будынку для гімназіі, ні вучыцялёў, ані сяродкаў на абсталяваньне, на кнігі ды школьныя прылады. Праўда, Будслаў з ваколіцамі меў каталіцкае насельніцтва, якое не зачапіла русыфікацыя, а палянізацыя праз касьцёл і двор кранула павярхоўна толькі некалькі трацьціярак ды нялічных панскіх служак. Нацыянальная сьведамасьць і цяга да асьветы, як было ўжо сказана, была значная, аднак нікому ў голаў і ня прышло, што трэба пачынаць адразу зь гімназіі; людзі не разумелі патрэбы й значаньня такой школы — ды некаторыя навет слова «гімназія» блыталі з словам «гімнастыка». Таму шмат якія будслаўцы гаварылі, што няма тут падрыхтаванага грунту пад гімназію. Гэта была восень 1917 году, ад лютаўскай рэвалюцыі прайшло толькі некалькі месяцаў, якія не маглі згладзіць цемнату й безпрасьвецьце створанае расейскай рэакцыйнай палітыкай за амаль паўтара стагодзьдзя. Аднак Адварды Будзька не пабаяўся ўсіх гэтых цяжкасьцяў, бо ён ведаў, чаго хацеў, ведаў чаму ў Будславе трэба адкрыць беларускую гімназію. Ён знаў, што Беларусам патрэбна перадусім інтэлігэнцыя, якой тады было так мала, — пры тым інтэлігэнцыя сялянская, зь нетраў народу. Аб сярэдніх школах у большых мястэчках было каму паклапаціцца, але гэтыя школы для сялянства былі мала даступныя. Таму зусім слушна ён уважаў, што трэба тварыць беларускія сярэднія школы для сялянства ў самай гушчы вясковых асярдзьдзяў. Будслаў-жа быў ідэальным мейсцам для гэтай мэты.

Наш слаўны дзеяч умеў выбіраць адпаведныя мамэнты дзеля правядзеньня сваіх сьмелых плянаў, — а восень 1917 году была вельмі адпаведным часам дзеля арганізацыі беларускіх школ. Рэвалюцыя была яшчэ ў руху, Керанскі тросься, адбываўся бальшавіцкі пераварот ды й Немцы былі недалёка. У сталіцы Беларусі йшла гарачая арганізацыйная работа, крышталізавалася ідэя незалежнасьці, але ня было яшчэ рашучасьці замацаваньня сваей беларускай улады. Намінальна прызнавалася па энэрцыі расейская ўлада, якая была тады ў зьменнай стадыі й асаблівай эфэктыўнасьці на Беларусі не праяўляла. Аднак сытуацыя магла зьмяніцца ці то з узмацненьнем тэй ці іншай расейскай улады, ці то з прыходам Немцаў. Таму трэба было лавіць мамэнт, каб стварыць дакананы факт ня просячы нічыёй ласкі, ці канцэсіі. І вучыцялёў цяпер было знайсьці лягчэй, бо з галодных гарадоў уся інтэлігэнцыя ехала на заможную хлебам вёску. Цяжка было проціставіцца гэтым аргумантам, яны пераканалі й тых, што ня верылі ў магчымасьць заснаваньня гімназіі, і тых, што не разумелі патрэбы яе. Выявілася гэта на агульным сходзе бацькоў у Будславе, якіх Адварды Будзька пераканаў у патрэбе арганізацыі беларускай гімназіі ды збудзіў іх энтузіязм да дзеяньня. Ён умеў гаварыць зь сялянамі, умеў пераконваць іх, а найважнейшае — меў іх давер, быў сваім чалавекам і не аднаму памог у нягодзе, ды быў добрай радай, не аднаму памог вызваліцца з акупанцкіх арыштаў.

Пасьля сходу работа загула. Быў створаны адмысловы камітэт, які пачаў зьбіраць грошы на гімназію, рыхтаваць клясы ў быўшай прыхадзкой школе й будынку воласьці ды ўпарадкоўваць абсталяваньне. Адварды Будзька заняўся шуканьнем вучыцялёў. На дырэктара быў запрошаны ведамы археоляг Васілевіч, які скончыў два факультэты ў Маскве й паходзіў зь вёскі Пузыры 7 км. ад Будслава. Была запрошана група вучыцялёў, у якой была родная сястра А. Будзькі й шмат каму ведамы на эміграцыі с. п. Мікола Шыла. Падручнікі й школьныя прылады былі прывезены зь Менску. Адварды Будзька бываў тады часта ў беларускай сталіцы. І хоць аддаваў свае сілы на арганізацыю Беларускай Гімназіі ў Будславе — не занядбоўваў і буйнага тады арганізацыйнага жыцьця ў Менску. Браў удзел ува ўсіх важнейшых беларускіх канфэрэнцыях і зьездах, уключна зь Першым Усебеларускім Кангрэсам.

Камітэт вырашыў на пачатак адчыніць тры гімназіяльныя клясы й дзьве пачатковыя. Заняткі мелі распачацца па новым 1918 годзе. Распачаліся яны дзесь у сярэдзіне студзеня таго-ж году.

У сакавіку 1918 году прыйшлі Немцы. Гімназія з азначанымі вышэй клясамі працавала ўжо поўнай парай. Дакананы факт застаўся фактам. Немцы не рабілі ніякіх перашкодаў у працы Гімназіі. Ім было прыемна, што ў гімназіі выкладаецца нямецкая мова. Пацьвердзілі гэта нямецкія афіцэры, што час-ад-часу наведвалі лекцыі нямецкай мовы. Ад нямецкіх уладаў удалося навет здабыць грашовую дапамогу на Гімназію.

Нямецкая акупацыя прынясла магчымасьць навязаньня сувязі зь Вільняй, якая была перарвана фронтам ад 1916 году. Віленскае беларускае асяродзьдзе дало Будслаўскай Гімназіі маральнае падтрыманьне й свае ўплывы. Наагул пэрспэктывы для Гімназіі былі вельмі добрыя. Трэба было думаць аб далейшым этапе, а перадусім аб адпаведным будынку для Гімназіі. Як фаховая сіла дзеля гэтага быў запрошаны ведамы беларускі архітэкт, с. п. інж. Дубякоўскі. Ён прыехаў у Будслаў і апрацаваў плян двухпавярховага драўлянага будынку для Гімназіі. Будслаўскія сяляне аддалі пад пляц для Гімназіі адрэзкі шнуроў, што даходзілі да вуліцы, на якой мела знаходзіцца Гімназія. Агульны сход бацькоў пастанавіў, каб бацькі апрача аплаты за навуку, адпрацавалі па два дні ад кажнага вучня пры будоўлі Гімназіі, ці то пры вывазцы дрэва й каменьня — для тых, што мелі коней, ці то ручной працай — для мяшчан, што ня мелі коней. І тут работа загула. Яна стрымана была часова толькі выступам мясцовага абшарніка перад нямецкай уладай, якой ён злажыў скаргу на будслаўцаў, што самавольна высеклі бярвеньне на Гімназію ў ягоным лесе. Але праз пару месяцаў Немцы адыйшлі на Захад, а за імі выехаў і пан Оскерка.

Новы 1918/19 школьны год распачаўся нармальна ў верасьні, ужо з чатырмя гімназіяльнымі клясамі й дзьвюма пачаткавымі. Навука трывала дзевяць з палавінай месяцаў. Наплыў вучняў быў такі вялікі, што ня было дзе іх зьмясьціць. Ува ўсіх чынных клясах налічвалася панад 350 вучняў. Засяг абшару, зь якога яны паходзілі, даходзіў да 30 км. радыюсам вакол Будслава. А што-ж было-б, калі-б Гімназія дайшла да поўнага складу 8 кляс, Запраўды тут ствэрана была кузьня беларускай сялянскай інтэлігенцыі.

Восеньню паказаліся бальшавікі. Яны тады былі яшчэ ў стадыі арганізацыі й не зрабілі вялікіх зьменаў у жыцьці Будслава. Загадалі толькі, каб Гімназія фармальна называлася трудавой школай. Тым часам будынак гімназіі хутка вырастаў. Былі ўжо выведзены сьцены першага паверху. Тут паявіўся надзвычайны высілак будслаўскага сялянства ды арганізацыйныя здольнасьці Гімназіяльнага Камітэту. Зразумела, што за ўсім гэтым, як кіраўнік і інсьпіратар стаяў А. Будзька.

Лета 1919 году прынясло благія навіны. Урад БНР і ягоны апарат акупанты-бальшавікі й Палякі змусілі эміграваць, ды пачалі вайну між сабой за жывое цела Беларусі. Будслаў апынуўся ў засягу ваенных апэрацыяў і трывожна глядзеў на будучыню. З усяго відаць было, што прыдзецца паспытаць новай акупацыі — польскай, ад якой Беларусы нічога добрага не спадзяваліся. Ведамым было, што з Палякамі вернуцца ўсе мясцовыя паны й паўпанкі, што так моцна даліся сялянству ў знакі ў часе нямецкай акупацыі.

Палякі прыйшлі пад восень. Адчуў іх найбалючай Будслаў. Будслаўская Беларуская Гімназія была зачыненая. Дошка з гэтым надпісам была зьнятая з школьнага будынку за пару тыдняў перад пачаткам школьнага году.

Будслаўская Беларуская Гімназія праіснавала паўтара года, але за гэты час у існуючых клясах была праароблена праграма двух гадоў. Ускалыхнула цэлым паветам. Пасьля закрыцьця Гімназіі вучні разыйшліся па сваіх хатах з жалем на чужую ўладу, што зачыніла ім дарогу да асьветы. Але панесьлі з сабою беларускую кніжку, беларускую песьню, беларускую нацыянальную ідэю. Шматлікія зь іх, засмакаваўшы духовай стравы ў Гімназіі — не маглі ўжо безь яе абыходзіцца, яны пайшлі ў шырокі сьвет, у пагоні за асьветай і здабылі яе. І тут не аднаму дапамог Адварды Будзька. Да вынікаў уплыву коратка йснаваўшай Будслаўскай Беларускай Гімназіі трэба залічыць і той факт, што пазьней пад Польшчай — аж да 1939 году Будслаў мей вялікую колькасьць моладзі, што вучылася ў розных школах — сярэдніх і вышэйшых.

* * *

Дзеля паўнаты вобразу варта кінуць вокам і на пазашкольнае жыцьцё ў Будславе ў часе йснаваньня Гімназіі. Як і трэба было спадзявацца, Гімназія зрабіла ўплыў на ўсё насельніцтва, а перадусім на моладзь у пазашкольным веку. Шматлікія дзяцюкі й дзяўчаты вучыліся на агульна-асьветных курсах пры Гімназіі. Гімназія ладзіла беларускія пастаноўкі, канцэрты й вечарыны. Вучні выдавалі на сапіраграфе свой часапіс «Сьветач». Дырэктар і вучыцялі чыталі публічныя лекцыі для ўсяго насельніцтва. Моладзь пазашкольнага веку арганізавала свой клюб «Вяночак», бібліятэку, хор, струнны аркестр і драматычны гурток. Культурнае жыцьцё ў Будславе біла поўнай крыніцай. Кажную нядзелю ладзіўся беларускі спэктакль ці канцэрт. У часе-ж прынагодных збо-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

### ЗЬ ГІСТОРЫІ ГАЗЭТЫ «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

Пра ўсе гэтыя й падобныя да іх факты, мноства якіх сустракаецца на балонках першых нумароў «Савецкай Беларусі» гісторыкі беларускага савецкага друку цяпер маўчаць, стараючыся скараціць гісторыю, каб ня даць магчымасьці сяньняшняму чытачу даведацца ўсю праўду пра падзеі тых часоў. Бальшавіком напярэдадні 40-годзьдзя БССР трэба зацерці сьляды таго гвалту, пры дапамозе якога яны здушылі імкненьні беларускага народу жыць у сваёй вольнай Беларускай Народнай Рэспубліцы, абвешчанай 25-га сакавіка 1918 году.

**А. Б-ч**

чога кепскага ў гэтым няма. Абы толькі людзям была ад гэтага карысьць.

Не магу я прыняць вашу думку й наконт Мокрутавага крэсла. Разумныя людзі ніколі ня скажуць, што вы крытыкавалі Мокрута для таго, каб заняць яго мейсца. Яны хутчэй скажуць, што вы змагаліся ня супраць Мокрута, як чалавека, а супраць яго недахопаў, значыць, па сутнасьці, змагаліся за Мокрута. Ён чалавек яшчэ малады, жыцьцё, яго яшчэ наперадзе. Заўважылі, што ўжо нават сёньня ён ня вельмі лез на ражон? А старшынёй яго пакідаць нельга. Аб гэтым ведаюць усе дэпутаты, і ў раёне цяпер глядзяць на гэта іначай. Вунь Павал Паўлавіч, да чаго ўжо спакойны чалавек, і то ўзьняўся, нават мяне падганяе.

Так, гаворачы й зьлёгку спрачаючыся, яны й незаўважылі, як выйшлі на дабрасельскую дарогу й нават гоняў двое прайшлі па гэтай дарозе. Ільля Савіч прыпыніўся й працягнуў Дашы руку.

— Мне вельмі няёмка, — просячы прабачэньня, загаварыў ён, — што пакідаю вас адну, трэба было-б прайсьці з вамі й да самых Дабрасельцаў. Але я пастаю тут, пакуль вы хоць да млыноў дойдзеце, а там ужо недалёка.

Па голасу й па крыху разгубленых жэстах можна было заўважыць, што дырэктар запраўды перажываў.

— Я дабягу адна, — з усёй сваёй шчырасьцю запэўняла Даша. — Хіба гэта першы раз? І так вы ўжо далёка са мною прайшлі. Дзякую вам, шчыра дзякую. У вас і безь мяне многа ўсякіх спраў.

— Ды справы там не якія, — гаварыў далей Ільля Савіч, — але сёньня мне яшчэ абавязкава трэба напісаць аднаму свайму вучню пісьмо. Былому, праўда. Заўтра авіяпоштай пашлю.

Дырэктар глядзеў на Дашу з уцешнай усьмешкаю, а яна замаргала спачатку нездагадліва й разгублена, а потым, зразумеўшы, аб чым ідзе гаворка, заіскрыла радаснымі вачамі й ухапілася за дырэктараву руку.

— Як я вам удзячна, Ільля Савіч, каб вы толькі ведалі!

Ідучы далей адна, дзяўчына не магла сабрацца са сваімі думкамі, уражаньнямі. А іх было так многа, і такія яны былі ўсе важныя: і радасныя, і трывожныя. Хоць ногі міжвольна й зьбіваліся на бег, але ня было жаданьня хутчэй ўбачыць Дабрасельцы. Хоць трохі й страшнавата было адной, але думалася аб тым, каб дарога працягнулася як мага больш, каб даўжэй заставацца ў самаце. Вось чаму, калі Даша ўбачыла, што з-пад бяскрылых млыноў ёй напярэймы выходзіць нейкі чалавек, то перш, чым падумаць аб іншым, у яе мільганула шкадаваньне расстацца са сваімі марамі. Чалавек выйшаў на дарогу й стаў. Дзяўчына таксама прыпынілася, стараючыся разглядзець у цемры, што гэта за чалавек.

— Ня бойся, Даша, падыходзь, — пачула яна голас і пазнала Мокрута. — Я проста чакаў цябе тут, кабісьці разам дадому.

У дзяўчыны трохі скаланулася сэрца, але яна не паказала спалоху, пайшла. Успомнілася, як паглядваў на яе Мокрут у час партыйнага сходу. Вочы былі мутныя нібы застыглыя, і цяжка было зразумець, што яны выяўлялі. Можна было падумаць, што гэты чалавек жадаў дзяўчыне самага горшага на сьвеце, нават сьмерці, і можна было падумаць, што нічога дрэннага не жадаў.

Падыйшоўшы, і цяпер Даша глянула Мокруту ў вочы, і спалох яе апаў. Ня так убачыла яна, як адчула, што ў вачах старшыні цяпер толькі сум, а ніякай злосьці няма. Сам ён быў ссутулены, уцягнуты ў каўнер кожанкі й рукі трымаў сьціснутымі адна пры аднэй у рукавах. Відна было, што апрача перажываньняў, магчыма нават некаторага раскаяньня, ён яшчэ й добра прамёрз, седзячы пад млынамі, бо са сходу ён пайшоў даўнавата.

Пайшлі далей, не сказаўшы адзін аднаму больш ні слова. Даша аднэй машыннай калеінай, а Мокрут другою. Ён толькі выняў рукі з рукавоў, памахаў імі трохі й апусьціў у глыбокія, але, відаць, прахалоджаныя кушэні.

— Замёрз ты? — празь некаторы час спытала Даша. Ёй ужо цяжка было не падаць ніякага голасу.

Мокрут павёў плячамі, крыху падвыпрастаўся, але не сказаў нічога, нібы спагада такая была не для яго.

— І трэба было табе сядзець пад гэтымі млынамі, — больш з дакорам чым з насьмешкай сказала Даша. — Ішоў-бы дадому, у цяпло.

— Няма мне цяпер куды йсьці, — глыбока ўздыхнуўшы, нібы прамовіў, нібы прастагнаў Мокрут.

Крокі яго сталі няроўнымі й цядкімі, быццам падэшвы ботаў пачалі прыставаць да каляіны. Ён ішоў моўчкі яшчэ некалькі хвілін, а потым крыху адхіліў з Дашынага боку свой каўнер і загаварыў ужо ня так глуха й нявыразна, але суму ў голасе было яшчэ больш, думкі выходзілі няпоўнымі, нібы ўрэзанымі.

— Мая хата й раней ня была мне асабліва мілай, а цяпер дык... Каб не так холадна, то я начаваў-бы пад млынамі. Добра было некалі ў партызанах: залезеш у будан, укрыешся...

Даша маўчала, бо ні спрачацца з Мокрутам, ні спачуваць яму ў яе ня было асаблівага жаданьня. Яна толькі ўсё думала, чаму ён чакаў яе: намерваўся чалавек пагаварыць, выкласьці душу, а можа й якая лаянка ў яго ў галаве, магчыма, нават помста. Страху аднак ня было, нешта не зьяўлялася такая думка, што Лявон можа учыніць ёй што-небудзь дрэннае.

— Значыцца мы сёньня імяніньнікі, — зноў загаварыў Мокрук. — Цябе з кандыдатаў і мяне з кандыдатаў. Здарава! Толькі цябе ў сябры, а мяне... Колькі год мне давялося пахадзіць у кандыдатах! І вось... Ну й злавалася ты на мяне сёньня, праўда? Усе злаваліся, нібы я ўсім ворагам стаў. Асабліва дырэктару.

— Ніхто не злаваўся, — спакойна заўважыла Даша. — Гаварылі тое, што думалі.

— Усё прыпомнілі, — незласьліва сказаў Мокрут і зноў глыбока ўтуліўся ў каўнер, змоўк.

Дзяўчыне здалося, што ён пайшоў крыху жвавей, і яна адчула нейкую палёгку ад гэтага. Хутчэй-бы дайсьці, а там ён няхай, як хоча. Захоча выгаварыцца, дык знойдзе ахвотнікаў паслухаць, а пацягне яго на адзінокае маўчаньне, дык трапіцца й для гэтага. Глянула ў бок Дабрасельцаў і быццам-бы зарадавалася, што скрозь рэдкі не халодны туманчык убачыла сьвятло электрычнага ліхтара, які зноў гарэў каля вёскі. Значыцца, ужо недалёка асталося йсьці. Але выйшла так, што й Мокрут, бадай, у гэты-ж самы час глянуў на ліхтар й не прыбавіў яшчэ кроку, чаго якраз чакала Даша, а прыкметна збавіў. Яго, відаць, не цягнулі Дабрасельцы. Дзяўчына сама пайшла хутчэй, аднак старшыня ня рушыў за ёй, а, хрыпла кашлянуўшы, сказаў:

— Не сьпяшайся так, Даша. Яшчэ ня позна.

І параўняўшыся зь ёю, стаў прасіць, каб яна пагаварыла зь ім, забыўшыся аб усім, што адбылося й што выявілася за апошнія часы, пагаварыла так, як яны ўсё-ж такі не адзін раз гаварылі ў мінулыя гады.

**(Далей будзе)**

